Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 20. Вільня, Нядзеля 11 Ліпня 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. (Wilno, ulica Połocka 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Павучыньне над беларусамі пад Польшчай.

Калі глянем у недалёкую гісторыю разьвіцьця беларускага руху, то ўбачым, як увесь час над беларускім рухам пад Польшчай, як у палітычным, так грамадзкім і культурным жыцьці былі прыстаўляны да нас апякуны.

Апякунамі гэнымі ёсьць польская адміністрацыя і некатарыя польскія партыі, а такжа так зв. „беларусы“ праз некага знайдзеныя і пастаўленыя дзеля ашукваньня нашага беларускага народу і дзеля разьбіваньня ўсіх ягоных пачынаньняў, усей яго працы.

Каб не сказалі мне, што я гэта кажу ня маючы ніякіх канкрэтных фактаў, дык вось і факты. Ня буду сягаць надта далёка, вазьму хоць час з 1922 году, час прадвыбарчы. У гэтым часе колькі-ж зьляцелася вараньня з усіх закуткаў Польшчы, каб атрымаць мандаты ад беларускага люду?! Былі тут і „Рады людовыя“ і „Вызваленьне“, і П. П. С., і нават сьпісак Пілсудскага. Усе гэтыя партыі абяцалі беларускаму селяніну, што ён будзе мець зямлю бяз выкупу, будзе мець школу ў роднай мове, ды на агул—атрымае ўсё, што трэба. Праўда, ня ўсім гэтым партыям беларусы паверылі, бо ня ўсе яны правялі паслоў. Але пабачым, што далі беларускаму селяніну тыя партыі якія дасталі мандат, як П. П. С. і „Вызваленьне“. Яны далі беларускаму сялянству асадніцва замест зямлі бяз выкупу, замест школы ў роднай мове далі Ст. Грабскага, які зьнішчыў і тыя беларускія школы, што былі ўтрымліваны на ўласны кошт самым беларускім грамадзянствам, замест вольнасьці грамадзкай, далі вастрогі, бо 200, 300 чалавек арыштовывалі адразу ў адным павеце.

А робіцца гэта дужа хітра.

Для прыкладу возьмем „Вызваленьне“. Гэта польская партыя ў 1922 годзе здабыўшы беларускія мандаты і зрабіўшы нам гэтулькі зла, каб затуманіць вочы—дзеліцца і некатарыя паслы з „Вызваленьня“ выходзяць і твораць т. зв. Польскую Незалежную Партыю Хлопскую. Што гэта значыць? А гэта значыць, што вышаўшыя з „Вызваленьня“ паслы скажуць выбаршчыках беларусам, што „Вызваленьне“ беларусам дало асаднікаў, але што яны цяпер да „Вызваленьня“ не належаць і далей будуць заклікаць беларусаў, каб за іх галасавалі пры наступных выбарах, даказваючы, што яны „też białorusini“.

Мала гэтага, правадыры Польскай Незалежнай Партыі Хлопскай пашлі далей, бо сталі крычаць, што яны стаяць на грунце клясавых інтарэсаў, а што беларускія паслы ня ўсе стаяць на гэтым грунце і што трэба Беларускі Пасольскі Клюб падзяліць. Праўда, знайшліся такія з беларускіх паслоў, якія паверылі правадырам Польскай Незалежнай Хлопскай Партыі, разьбілі Беларускі Пасольскі Клюб, утварылі „Грамаду“ і пайшлі на павадку гэтай партыі. Словам, чаго правадыры Польскай Нез. Хл. Партыі хацелі, таго і дабіліся.

Гэта прасьцей кажучы значыць: „дзялі і кіруй“. Але пытаю, ці гэта карысна для беларускай справы? Адказ ясны, што не. Тут мушу прыпомніць жыдоўскую прыказку: „ня круціцца ў права, круці ў лева—закруціцца“.

Цяпер паглядзім, што дало беларусам П. П. С. Польская Партыя Сацыялістычная пры выбарах дакляравала зрабіць для нас так-жа многа. А вышла сусім наадварот.

П. П. С., ці будучы ў урадзе разам з Грабскім, ці падтрымліваючы папярэднія ўрады, заўсёды йшлі проціў нас.

Гэта ведама кожнаму беларусу і аб гэтым гаварыць ня буду. Прыпомню тут толькі, што робіць П. П. С. цяпер у нас на вёсцы. П. П. С. кідае хмары сваіх агітатараў, выкрыківе надта-ж радыкальныя лёзунгі, ходзіць з чырвонымі сьцягамі, пяе рэвалюцыйныя песьні і баламуціць наш народ. Пры агітацыі абяцае П. П. С. залатыя горы, а ў практыцы—путы няволі.

П. П. С. даець нам асадніцтва, а ў Баранавічах на мітынгу крычыць, што беларускія паслы прысылаюць асаднікаў і накладаюць вялікія падаткі. Калі пасол Рагуля хацеў забраць голас, то накінуліся на яго платныя агенты П. П. С. і агенты дэфэнзывы, пабілі яго, ды яшчэ завялі на пастарунак і хацелі спісаць нейкі пратакол.

Гэтак паступаюць адносна да нас польскія партыі. А што робіць адміністрацыя? Яна ўсіх беларусаў называе камуністамі, хоць агулам кажучы, беларусы нічога з камунізмам ня маюць супольнага. Робіцца гэта дзеля таго, каб празваўшы беларусаў камуністамі, лягчэй было душыць увесь рух беларускі і заганяць сьвядомых людзей у падпольле, ці ў вастрогі.

Такім чынам, душачы беларускі рух, шукаюць беларусаў за грошы, як напр. Паўлюкевіч. А гэта дзеля таго, каб польскі ўрад мог сказаць Лізе Народаў, ці якім іншым заграчічным прадстаўнікам, што ў Польшчы беларусы зусім здаволены.

Такі Паўлюкевіч крычыць, што паслы Беларускага Пасольскага Клюбу ня йдуць з польскай дэмакрацыяй і ставяць лёзунг самаазначэньня і дзеля гэтага нічога для беларускага сялянства не дабіліся. А як польская дэмакрацыя да нас адносіцца, я сказаў вышэй.

Узноў-жа Польская Незалежная Хлопская Партыя крычыць, што Беларускі Пасольскі Клюб не стаіць на грунце клясавых інтэрэсаў і дзеля гэтага ня могуць беларусы дабіцца лепшай долі.

З гэтага вывад: беларуская зямелька апутана павучыньнем з усіх бакоў. Рожнага роду павукі і павучкі жыруюць на беларускім целе і кожны з іх крычыць, як той злодзей: „лаві, лаві яго...“.

Беларусе, родны браце! Разьвярні худыя свае плечы, размахні сваімі мазалістымі рукамі, зьмяці гэнае павучыньне і скажы: годзе, я больш апекі не патрабую, я ўжо поўналетні, я сам патраплю дабіцца сабе лепшай долі!...

А каб дабіцца лепшай долі, трэба арганізавацца, трэба йсьці ў сваю клясавую арганізацыю ў Беларускі Сялянскі Саюз, які ні начым ня йдзе павадку.

*Антон Муха.*

## З арганізацыйнага жыцьця Белар. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

**БЕЛАРУСЫ, аткрывайце свае прыватныя беларускія школы!**

Каб скарэй дабіцца ўрадовай беларускай школы, кожная вёска павінна пакуль што аткрыць прыватную беларускую школу, калі блізка ёсць беларускі вучыцель. Усе клапоты ў атрыманьні дазволу на школу бярэ на сябе Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Вы толькі павінны неадкладна прысылаць у Інстытут (Wilno, ul. Zawalna 7) такія даныя:

1) У чыей хаце мае быць школа, яе размеры і колькі мае вакон?

2) Сьпісак дзяцей.

3) Кандыдата на вучыцеля, яго дакумэнты аб кваліфікацыі і жыцярыс напісаны вучыцелям па беларуску і папольску.

4) Адрес вучыцяля і складаючага заяву селяніна.

*Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.*

**Да беларускага настаўніцтва.**

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, згодна з аднэй з сваіх мэтаў—пашырэньня асьветы, прыступае да шырокай акцыі школьнай, якая імкнецца да закладаньня пачаткавых беларускіх школ, вучыцельскіх курсаў, гімназіяў і іншых.

У зьвязку з гэтым Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зьвяртаецца да ўсіх настаўнікаў-беларусаў з просьбай прыняць удзел у гэтай працы пашырэньня беларускай асьветы і гэтым будаваць фундамант для лепшага жыцьця беларускага народу.

З гэтай мэтай Інстытут просіць усіх настаўнікаў беларусаў (безработных і маючых працу ў той ці іншай школе) зарэгістравацца ў Віленскім Аддзеле Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры (Завальная 7), прысылаючы пасьля запаўненьня такія анкеты:

1. Прозьвішча, імя і век

## Песьня батрака.

О, колькі гора, колькі мукі
Нясеш паганае жыцьцё!
Ніхто пацех мне не гавора.
За долю горкую маю,—
Нясецца толькі эха з бору,
Як песьню сьлёзную пяю.
Гэй, растлумач, выбледак ўражы,
Ты—дармаед пчаліных прац,—
Чаму гдзе труд крывавы ляжа
Замест сяла стаіць палац?!
Чаму крываўлю свае рукі,
Каб чужаку даць труду плён?!
О, досыць, досыць! серца ные,
Пагудкі страшнай голас вые:
Чакаў і днём, чакаў і ночай,
Ужо надаела мне чакаць,—
Устаю—іду, куды йдуць вочы,
За крыўду платы пашукаць!..

*Б—і.*

---

2. Адрэс.
3. Якая асьвета (настаўніцкая і агульная)?
4. Як прыгатаваны з беларусазнаўства?
5. Ці знае польскую мову?
6. Ці мае пасьведчаньне польскага грамадзянства, або польскі пашпарт?
7. Ці працуе ў школе, а калі не, то ці хоча працаваць у беларускай школе прыватнай, або публічнай?
8. У якой вёсцы або мястэчку хацеў-бы быць вучыцялем у беларускай школе?
9. Ці ў той вёсцы ёсьць польская школа, ці не?
10. Ці жыхары той вёскі падалі дэкларацыі школьныя на беларускую школу?
11. Ці вёска мае адпаведны будынак пад школу і хто зьяўляецца ўласьнікам яго.

*Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.*

### Як аткрываць Гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Згодна са статутам Інстытуту гурток паўстае ў кожнай меснасьці, дзе знойдзецца хоць 3 асобы, як запраўдныя сябры, жадаючыя заснаваць гурток і калі ўрад аддзелу згодзіцца на гэта. Такім чынам, калі ў якой-небудзь вёсцы 3 асобы будуць жадаць працаваць у рамках статуту Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, павінны яны падаць у Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры заяву з просьбай адчыніць у іх вёсцы гурток Інстытуту. У заяве павінны быць паданы кандыдаты на старшыню, скарбніка і сэкрэтара гуртка, а таксама адрэс кватэры гуртка.

Такая заява можа быць наступнага зьместу:

У Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, Аддзел у Вільні,
Завальная 7—8.

Ніжэй падпісаныя, жадаючы працаваць на аснове статуту Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, просім аткрыць гурток Інстытуту ў вёсцы . . . . . . валасьці . . . . павету.

Як кандыдатаў у часовы ўрад гуртка выстаўляем: 1) старшыня гр. . . . . .
2) скарбнік гр. . . . . .
3) сэкрэтар гр. . . . . .

Гурток будзе мясьціцца ў доме . . . . . . (падаць прозьвішча і імя гаспадара, у якога доме будзе гурток).

Дня . . . . . 1926 г. (Подпісы 3-х асоб
вёска . . . . . . . кандыдатаў у часовы ўрад)
пошта . . . . . .

### Беларуская Вучыцельская Сэмінарыя.

З пачатку 1926—27 школьнага году Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры адчыняе Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю ў Вільні.

## Наша ідэолёгія.

У папярэдніх нумарох нашай газэты, а таксама і ў праграме Сялянскага Саюзу даволі ясна была высьветлена ідэолёгія сялянскай партыі, і сяляне сусім добра зразумелі яе, бо яна зьяўляецца іхнай душой. Варочаемся яшчэ раз да гэтага пытаньня толькі таму, што газэта «Беларуская Справа» № 19 у стацьці «Крызіс у «Сялянскай» ідэолёгіі» робіць Саюзу злосныя закіды і стараецца на такіх закідах будаваць нічога нямаючыя з праўдай вывады.

Повадам, на гэты раз, аўтару ананімнай стацьці паслужыў справаздаўчы мітынг пасла Рагулі у м. Любчы, на якім Старшыня Сялянскаго Саюзу заявіў, што трэба дабівацца сялянска-работніцкага ўраду. Толькі селянін і работнік, ідучы ўпоруч, могуць выкаваць сабе лепшую долю. Гэта можа здзейсьніцца толькі тады, калі сяляне згуртуюцца ў свой Сялянскі Саюз і гэты саюз падасьць руку саюзу мястовых работнікаў, і разам пойдуць здабываць лепшую долю.

Апіраючыся на гэтых славах і параўноўваючы іх з адпаведнымі артыкуламі «Сялянск. Нівы», «дасужы» ананімны аўтар з «Бел. Справы» робіць вывад аб крызісе Сялянскай ідэолёгіі.

Больш чым сьмешным і злосным можа выдавацца такі вывад, бо не апіраецца ён на ніякіх фактычных даных, гаворачых на яго карысьць, а наадварот—гэтыя даныя пярэчаць гэнаму вываду.

І так ужо ў № 1 «Сялянскай Нівы» мы пісалі, што дзякуючы арганізованнасьці рабочых амаль што не на ўсім сьвеце работнік шмат патрапіў палепшыць свой лёс, тады калі неарганізованныя сяляне вядуць барацьбу з галоднай сьмерцяй. Адным сапраўдным лякарствам для здабыцьця зямлі і лепшай долі сялянамі можа быць толькі арганізацыя сялянства, бо ў арганізацыі сіла, а сіла фактычна камандуе ўсім. Ніхто ня будзе такі добры, што бачучы селяніна ў бядзе і бяз хлеба, прыдзе і дасьць яму жыць палюдзку. Буржуазыя і абшарнікі будуць далей цягнуць з селяніна сокі, пакуль ён не аддасьць усяго. Мястовы работнік мае на сваей шыі фабрыканта і ня толькі аднаго, а цэлы саюз фабрыкантаў, мусіць з імі вясьці барацьбу за свае правы, знача, селяніну астаецца таксама згуртавацца ў сваю клясовую арганізацыю—у саюз і дружнымі сіламі здабываць сабе лепшую будучыну. Каб барацьба работнікаў і сялян магла скарэй прынесьці перамогу, рэч ясная, як сяляне, так і работнікі павінны ісьці разам і адны другім памагаць. Арганізатары Сялянскага Саюзу разумелі добра гэта і затым у праграме сялянскай партыі маем адпаведны параграф 45, а калі ў тым самым № 1 «Сял. Нівы» паданы прыклад з ССРР., то якраз гэта даказывае, што сяляне ў Расеі ня былі арганізаваны, а затым і асталіся ў хвасьце на'т і тады, калі работнікі дайшлі да ўлады.

Стоячы ўвесь час на тым самым грунце аб патрэбе арганізаваньня сялян проціў паноў і буржуазіі, у № 9 «Сял. Нівы» мы пісалі, што Сялянскі Саюз ня дзеліць сялян і работнікаў, што ў змаганьні з супольнымі ворагамі яны павінны ісьці разам, хаця «нямашака ніякага супольнага сялянска-работніцкага жыцьця». Але супольная барацьба можа быць, бо адзін і той-жа вораг душыць як селяніна так і работніка; дык вывад «Бел. Справы» сусім не на мейсцы.

Усе іншыя закіды «Бел. Справы» так галаслоўны, і так пахнуць хвора-нэрвовым станам аўтара, што паважна з імі лічыцца няможна.

Словы «Бел. Справы», што «п. Рагуля быў запраўды здраднікам сялянскай справы, што запаскуджываў розумы сялян, уліваючы ім у душы ненавісьць да работніцкай клясы», зьяўляюцца абвінаваченьнем сфабрыкаваным на скорую руку вінаватым, які хацеўбы сваю віну зваліць на іншых.

Каб ня быць галаслоўным і каб паказаць, хто фактычна быў здраднікам сялянскай справы, а перадусім работніцкай справы, прыпомнім толькі кіраўнікам «Белар. Справы» аб гістарычным дакумэнце, якім ёсць тэлеграма да Вільгэльма і аб каншахтах з Балаховічам і Ладновым—агент. франц. дэфэнзывы ў справе аружнай барацьбы за грошы буржуазіі з уладай саветаў. Цяпер мусіць будзе ўжо ясным, хто быў здраднікам, хто запаскуджываў розумы тых, за якіх цяпер так «распінаецца». Калі гэтага будзе мала, то прыпомнім у сваім часе «Беларускай Справе» і яе насьледнікам яшчэ аб іншых фактах.

Дык чытачом нашым цяпер будзе сусім ясна, што над беларускай справай вісіць нейкая чорная рука, якая-б хацела і лёс селяніна і лёс работніка мець пад сваей апекай, апекавацца імі раз пад плашчам буржуазным, другі раз пад плашчам пралетарскім, трымаючы абоіх у чорным целе і ня выпускаючы лейцаў з рук. Як толькі селянін захацеў пайсьці сапраўднай дарогай адраджэньня, дарогай арганізацыі і барацьбы за сваю будучыну, чорная рука зьбясілася і пусьціла ў ход усе сродкі, прыпісываючы сваё здрадніцва іншым.

Не, даволі гэтага зьдзеку, гэтай кабінэтнай апекі! Селянін чакае паляпшэньня яго долі. Наступіла пара сапраўднага вызваленьня сялянскай ідэалёгіі з пад усіх яе няпрошаных апякуноў, якія нічога супольнага нямаюць з жыцьцём селяніна і седзячы далёка ад яго ў вялікім месьце, вядуць баламутную вельмі шкодную як для сялян, так і для усей беларускай справы работу, нацковываючы селяніна проціў селяніна, шукаючы здраднікаў сярод сялян, нацковываючы работнікаў проціў арганізацыі сялянства.

*Сымон Мікута.*

---

## З СОЙМУ.

### З працы Беларускага Пасольскага Клюбу у Сойме

У працягу пленарных паседжаньняў Сойму, якія адбыліся у часе ад 4. III да 22. VI 26 г., апрача выступленьняў паслоў з Беларускага Пасольскага Клюбу на пленуме Сойму, якіх прамовы былі падаваны ў беларускай прэсе, Беларускі Пасольскі Клюб падаў наступныя інтэрпэляцыі:

№ 309. 16. III. 1926. У справе надужыцьцяў солтыса вёскі Некрашэвічы, Жуховіцкай вол., Стаўпэцкага пав.

№ 310. 17.III.26. У справе надужыцьцяў польскіх уладаў у зьвязку з жаданьнем беларускай школы ў в. Чамэры, Слонімскага пав.

№ 311. 27.III.26. У справе прысьпяшэньня судовага сьледства арыштаванага В. Шыпуня з в. Прыкамса, Сухапольскай валасьці, Бельскага павету.

№ 312. 20.IV.26. У справе неправідлогай ліквідацыі сэрвітуту сялян в. Грыцэвічы, Нясьвіскага павету.

№ 313. 20.IV.26. У справе парцэляцыі маёнтку Цярэсполь-Мох, Сноўскай валасьці, Несьвіскага павету.

№ 314. 28.IV.26. У справе няўрэгуляваньня Навагрудзкім Павятовым Аддзелам належнасьцяў за працу пры будове маста.

№ 315. 28.IV.26. У справе беспадстаўнага караньня арыштам сялян за непасыланьне дзяцей у польскую школу.

№ 316. 22.VI.26. У справе надужыцьцяў паручніка Скібінскага з Корп. Пагр. Абар.

№ 317. 22.VI.29. У справе надужыцьцяў пры выбарах валасной рады ў вёсцы Пэні, Пружанскага павету.

№ 318. 22.VI.26. У справе прысьпяшэньня судовага сьледства арыштаванага Канстан. Чацьверкі з в. Шарэшоў, Пружанскага пав.

№ 319. 22.VI.26. У справе надужыцьцяў дакананых лясьнічым Пудзіноўскім адносна да даўгалетняга арэндатара Яз. Барысэвіча.

№ 320. 22.VI.26. У справе няпрыманьня поштай у Казлоўшчыне, Слонімскага павету, карэспандэнцыі, адрэсаванай у белар. мове.

№ 321. 22.VI.29. У справе спыненьня злучаньня грунтаў в Харкі, Даўгінаўскай в., Вялейскага павету.

№ 322. 22.VI.26. У справе катаваньня навагрудзкай паліцыяй сяброў пажарнай стражы.

# З заграніцы.

### Француская прэса аб беларусах і ўкраінцах пад Польшчай.

Парыская газэта „Ere Nouvelle“ з 6.VII. зьмяшчае стацьцю ў якой падкрэсьлівае значэньне пытаньня народных меншасьцяў у Польшчы, асабліва ў адносінах да беларусаў і ўкраінцаў.

„Калі немагчыма здаволіць меншасьці—піша газэта—поўнай незалежнасьцяй, то польская дэмакрацыя мае абавязак і інтэрас узмацаваць вузлы братняй згоды і супрацоўніцтва дарогай апрацаваньня лібэральнага статуту“.

На апрацаваньне ўсялякіх лібэральных статутаў, уставаў і канстытуцыі польскім уладам ахвоты было даволі, на жаль, гэты законы аставаліся заўсёды толькі на паперы.

### Жыдоўская Радавая Рэспубліка.

З Рыгі паведамляюць, што пасьля блізка 4-хлетніх перагавораў між Радай Нацыянальнасьцяў і Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам—радавы ўрад вылучыў частку Херсонскай і іншых губэрніяў як тэрыторыю Жыдоўскай Радавай Рэспублікі. Радавы ўрад і амэрыканскі камітэт помачы хочуць пасяліць на гэтых землях 25 тысяч жыдоўскіх сям'яў.

### Справы вуглякопаў у Англіі.

Пасьля вялікай агульнай забастоўкі ў Англіі жыцьцё работнікаў, асабліва вуглякопаў, яшчэ не ўнармавалася. У справе перамены палітыкі ўраду адносна праекту 8-мігадзіннага рабочага дня ў вуглявым промысьле, ўрад зрабіў ужо некатарыя загады на карысьць работнікаў.

### Паўстаньне ў Пэрсыі.

У гэтых днях у Пэрсыі ўзнялося паўстаньне, да якога прылучылася 800 салдат з урадавых войск. Урад каля тэрыторыяў абнятых рухам гуртуе войскі і амуніцыю з мэтай задушыць паўстанцаў.

# ХРОНІКА.

**— Угодкі сьмерці Т. Врублеўскага.** У суботу 3-га ліпня з прычыны ўгодкаў сьмерці вядомага грамадзкага дзеяча і вялікага прыяцеля нашага народу Тадэуша Врублеўскага, адбылося раніцай у Дамініканскім касьцеле ў Вільні жалобнае набажэнства за супакой душы памёршага. Вечарам, па ініцыятыве адумысна ўтворанага Камітэту, ў кватэру на Унівэрсытэцкай вул., дзе калісьці жыў і працаваў сьв. п. Врублеўскі, былі запрошаны на сабраньне прадстаўнікі беларускага, літоўскага, польскага і жыдоўскага грамадзянства ў Вільні.

Сярод прысутных, на гэтым нязвычайным сабраньні, панаваў вельмі паважны настрой. З прыгожай прамовай ад беларусаў выступіў пасол кс. А. Станкевіч, які падкрэсьліваючы вялікія заслугі Врублеўскага, выразіў жаль, што вялікая ідэя братняй згоды народаў насяляючых наш край, да якой імкнуўся нябошчык, не нашла водгуку сярод сяньняшніх паноў палажэньня, бо прыяцелі беларусаў ў польскім грамадзянстве—гэта лічаныя адзінкі.

У тым-жа духу прамаўляў д-р Альсэйка выказываючы заслугі Врублеўскага для літоўскага народу.

Ад палякаў прамаўлялі Ал. Ледніцкі, В. Абрамовіч і Л. Абрамовіч.

Д-р Шабад прамаўляючы ад жыдоў выразіў зьдзіўленьне, што Арганізацыйны Камітэт запрасіў толькі аднаго прадстаўніка ад жыдоў і надрукаваў запросіны ў-ва ўсіх мясцовых мовах за выняткам жыдоўскай.

Сабраньне кончылася дакладам д-ра Альсэйкі аб палажэньні эканамічным, палітычным і культурным Літоўскай Рэспублікі, скуль дакладчык нядаўна вярнуўся.

**— Быўшы рэд. „Крыніцы“ доктарам мэдыцыны.** У суботу 3 ліпня г. г. у Аўлі Калюмновай Віленскага Унівэрсытэту адбылася прамоцыя на доктара ўсіх лякарскіх навук былага рэд. „Крыніцы“, а цяперашняга супрацоўніка „Беларускай Крыніцы“ Браніслава Туронка.

**— Суд над рэдактарам Шылам.** 6.VII. у Віленскім Апэляцыйным Судзе разглядалася ўзноў прэсавая справа рэдактара „Голасу Беларуса“ Мікалая Шылы. Даўнейшы прысуд на 1 год крэпасьці гэтым разам Суд зьменшыў на 6 месяцаў.

**— Беларускі Камітэт у Варшаве.** У суботу дня 10-га ліпня а гадз. 6-ай па пал. ў Варшаве (Макатоўская 12 пак. № 4) адбыўся агульны сход Белар. Варшаўскага Камітэту, на які ўрад камітету заклікаў усіх сваіх сяброў, а таксама усіх мясцовых беларусаў.

Парадак дня: 1. Прыняцьце новых сяброў; 2) Справаздача за прошлы год; 3) Выбары ураду і 4) Бягучыя справы.

**— Арышт дырэктароў банку.** У ноч на 2 ліпня віленская пракуратура арыштавала дырэктара Віленскага Рольнага Банку А. Янкоўскага, быўшага шэфа фінансавай сэкцыі ў Магістраце Козел-Паклеўскага і Цяцерокага. Арыштаваныя абвінавачвуюцца ў рожных надужыцьцях.

**— Пракурор злодзеям.** На днях у Віленскім Акружным Судзе разглядалася праз некалькі дзён справа падпракурора Гурчына, які некалькі раз украў даверaныя яму казённыя грошы. Найбліжэйшы начальнік яго, пракурор Галаўня, даведаўшыся аб гэтым прыслаў свайму памоцніку Гурчыну 2 рэвальвэры, маючы на мэце праз сьмерць Гурчына паменшыць скандал, але Гурчын надта любіў выпіць і пабавіцца, дык і цяпер з прысланых 2-х рэвальвэраў быбраў... кіна.

П'яны Гурчын меў прывычку лічыць сябе не пракурорам, а „сьвятлейшым князям Горчаковым“. Гэта, паміж іншым, дало повад адвакатам даказываць, што абвінавачаны ня поўнага розуму, аднак судовая дохтарская экспэртыза прызнала Гурчына здаровым і той, праз каго іншыя садзіліся за краты, прыгаварам Акружнага Суда за ўкрадзеныя 65 тысяч злотых сам туды сядзіць на 5 гадоў.

„Dziennik Wileński“ шукае прычыны гэтага зьявішча ў расейскім узгадаваньні Гурчына, як бытцам ня ведае, што цяпер у Польшчы больш зладзейства, як у калішняй Расеі.

**— Курс на грошы.** У Варшаве афіцыяльны курс на 8.VII. лічыўся 9 зл. 15 гр. за даляр. Рублі золатам—4,71, срэбрам—0.00.

На чорнай гелдзе ў Вільні 8-га ліпня плацілі за даляр 9 зл 25 гр.

# ПІСЬМО У РЭДАКЦЫЮ.

Група дэлегатаў пакінуўшых зьезд нядаўна скліканы у Вільні п. Паўлюкевічам, падала ў нашу рэдакцыю заяву наступнага зьместу:

*У рэд. „Сялянскай Нівы“*

Прымаючы пад увагу:

1) што зьезд, скліканы Часовай Беларускай Радай у Вільні на 27 і 28 чэрвеня г. г. не зьяўляецца зьездам Заходняе Беларусі, бо на ім не прадстаўлены былі ўсе паветы і гміны Заходняе Беларусі і амаль ня ўсе учасьнікі зьезду былі асабіста заклікаты п. Паўлюкевічам;

2) што гэны зьезд зьявіўся партыйна-аднабокім, складзеным з прыхільнікаў п. Паўлюкевіча, на які не дапушчэны былі прадстаўнікі іншых палітычных арганізацыяў і не заклікаты былі беларускія паслы Сойму і Сэнату навет пражываючыя ў Вільні, ня гледзячы на неаднаразовую заяву аб гэтым сяброў зьезду;

3) што на зьездзе рабіліся пагрозы і гвалты над апазыцыйнымі сябрамі зьезду;

4) што на зьездзе адкідаліся тыя рэзалюцыі, зьмест каторых падтрымліваецца навет польскімі дэмакратычнымі і лявіцовымі партыямі і што гэны зьезд прыняў кірунак яўна рэакцыйны,—

мы, ніжэйпадпісаныя сябры зьезду, ня могучы ўзяць на сябе адказнасьць за ўсе вынікі гэнага зьезду, ня лічачы гэны зьезд поўнапраўным і дабіваючыся сазыву зьезду ўсяе Заходняе Беларусі, на каторым былі б прадстаўнікі ўсіх палітычных беларускіх арганізацыяў, на знак пратэсту пакінулі залю паседжаньня.

(Наступае 9 подпісаў).

28.VI. 1926 г.
м. Вільня.

# Пісьмы з вёскі.

### Вучнёўская экскурсія.

З 5 па 11 чэрвеня адбылася экскурсія Навагрудзкай Беларускай Гімназіі па Навагрудзкім і Стаўпецкім павеце праз мястэчкі: Карэлічы, Турэц, Ярэмічы і Любча, прычым з Ярэміч да Любчы (каля 70 кілямэтраў) Нёманам. Адначасна з экскурсіяй у вышэйуспомняных мястэчках пастаўлены былі вучнёўскімі сіламі спэктаклі на пакрыцьце расходаў падарожы. Уражаньне вучняў асталося вялікае, асабліва ад цудоўных відаў Нёмна, каторы пэўна першы раз у сваім жыцьці бачыў разам столькі маладых сваіх сыноў, ідучых шчыльнымі радамі па шляху асьветы. Задаволены былі і жыхары тых мясцоў, дзе ставіліся спэктаклі, бо ўсе рэчы праходзілі з пасьпехам, а ў канцы кожнага спэктаклю пяяў вучнёўскі хор свае родныя песьні.

Адбылася экскурсія з пасьпехам і пад'ёмам, але дасталася ня надта лёгка і то толькі дзякуючы працы паслоў Рагулі і Ярэміча, каторыя ўмяшаліса ў справу пасьля таго, як Навагрудзкі ваявода ген. Янушайціс не пазволіў ставіць спэктаклі і нават адмяніў дазвол дадзены раней Стаўпецкім старастай. Толькі міністар унутраных спраў зьліквідаваў справу.

*Беларус.*

# Наша пошта.

Гр. **А. Плюце.** Газэту будзем высылаць. На падпіску пачакаем.

Гр. **М. Вершыніну.** Пісьмо даручана беларускім паслам.

Гр. **Кастусю бяз долі.** З матэр'ялу скарыстаем. Вельмі дзякуем.

Гр. **Міх. Садоўскаму.** Просьбу спаўняем; будзем чакаць грошаў на падпіску.

Гр. **Мік. Шыбуту.** Газэту высылаем. Грошы атрыманы

Гр. **Ігн. Марцінеўскаму.** Просьбу спаўняем.

Гр. **Беласіку.** З прысланага матар'ялу скарыстаем у значна скарочанай форме.

Гр. **Яну Беліку.** Просьбу споўнім, на грошы пачакаем.

Гр. **Я. Скачку.** Газэту будзем высылаць.

Гр. **Мірскаму.** З прысланага матар'ялу пастараемся скарыстаць. „Гісторыя“ не падойдзіць. Газэту высылалі акуратна, неатрыманыя нумары высылаем яшчэ раз. Просім пісаць часьцей.

Гр. **Ул. Гмыру.** Друкаваць ня можам маючы адну частку апавяданьня. Калі падойдзіць, надрукуем атрымаўшы канчатак. Газэту на прысланы адрэс вышлім.

Гр. **Праваслаўнаму з Антокаля.** На жаль і ў гэтым нумары, за недахватам мейсца, не маглі мы зьмясьціць Вашай стацьці. Будзьце ласкавы пачакаць да чароднага нумару.

**Атрымана:**

Ад: кс. Шолкевіча 10 зл., С. Шахалевіча 4 зл., П. Сьвірыда 3 зл., Лоўкіса Браніслава 2 зл. 50 гр.

Ад: Мік. Шыбута, С. Паўловіча, Тодара Кірыка, Ант. Казака — **па 2 зл.**

Ад: Кірыла Міцяшкіна, Трыфона Цялежнікава і Янкі Русака — **па 1 зл.**



Рэдактар і выдавец **Ст. Вольскі.** **Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.**